10 ВЕРАСНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№103 (634) КОШТ СВАБОДНЫ

## ШКОЛА ВЫЖИВАНИЯ


стр.7

# Вінцук Вячорка пазнаваў у Югаславіі «галоўны сакрэт»

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Сербія вядомая не толькі канфліктам з албанцамі, прэзідэнтам Мілошавічам, якога ва ўсім свеце лічаць дыктатарам і ваенным злачынцам, але і даволі ўдалымі дзеяннямі мясцовых апазіцыянераў. Самы апошні мітынг у Бялградзе сабраў ледзь не сто тысяч. Беларуская апазіцыя вырашыла прыглядзецца да вопыту югаслаўскіх апазіцыянераў і камандзіравала ў Бялград намесніка старшыні Фронту Вінцука Вячорку. Па прыездзе Вячоркі з Югаславіі з ім сустрэўся карэспандэнт НАВІНАЎ.**

***— Спадар Вячорка, вядома, што Вы паехалі ў Бялград за сакрэтамі масавых дэманстрацыяў? Які вынік? Авалодалі ноу-хау югаслаўскай апазіцыі?***

— Задача маёй паездкі была шырэйшай. Канешне, навучыцца ў югаслаўскіх антымілошавіцкіх сілаў, як арганізуюцца масавыя акцыі пратэсту, але не толькі гэта. Я ехаў параўнаць ступень гатоўнасці да змены палітычнай сітуацыі, і ў выніку нават высветлілася, што наш вопыт таксама цікавы югаславам.

***— Што тычыцца акцыяў, які досвед Вам падаўся карысным?***

— Каб мітынг, дэманстрацыя атрымаліся, перш за ўсё патрэбна адзінства розных суб'ектаў палітычнага поля — партыяў, прафсаюзаў, недзяржаўных арганізацыяў — плюс падтрымка незалежнага друку.

***— Хіба ў нас гэтага няма? З пачатку года ўжо дэмакраты змагаюцца адзіным фронтам, а на вулічныя акцыі з'яўляецца ўсё менш людзей. Чаму?***

— Па праўдзе кажучы, не заўсёды было ў нас адзінства, асабліва паміж палітычнымі і прафсаюзнымі арганізацыямі, але гэта яшчэ не ўсё. Яшчэ ёсць тэхналогіі. Масавая акцыя патрабуе не менш як двухмесячнай падрыхтоўкі агітацыйнай кампаніі, правядзення драбнейшых папярэджальных акцыяў, а галоўнае, вялікае значэнне мае арыгінальны сцэнар. Тут у югаславаў ёсць што пераняць. Частку прыдумак мы абавязкова скарыстаем. ▶

Заканчэнне на стар.3

# БУЛАГ. Часть 2-я

## (Беларусь Управляемая Лукашенко Александром Григорьевичем)

Анатолий ЛЕБЕДЬКО
депутат ВС Республики Беларусь 12-го и 13-го созывов, заместитель председателя ОГП

**Станислав Шушкевич, в бытность Председателем Верховного Совета, встречался с группой американских сенаторов. Естественно, он говорил о Беларуси, о трудностях и перспективах. Все это время седовласый лидер сенатского большинства одобрительно покачивал головой. В ответном слове американский политик сказал: «Я верю, вы победите Чаушеску, и Беларусь станет демократической страной».**

Будем честны, до Лукашенко о Беларуси в мире практически ничего не знали. О нас вспоминали редко, говорили мало и неохотно, мы не были информационным поводом для масс-медиа. Но Лукашенко показал им «кузькину мать». Теперь нас знают. Только в текущем году различными международными организациями и их руководителями было принято порядка 15 резолюций, заявлений, посвященных ситуации в Беларуси.

### Внешнеполитический тупик

Комплекс неполноценности и избыточная амбициозность лежат в основе заявлений, действий, инициатив Лукашенко в сфере внешнеполитической деятельности. Этот вывод является логическим и закономерным продуктом анализа внешней политики Беларуси последних пяти лет. На пространстве в 207,595 кв.м. Лукашенко тесно. Он уверен, что вырос из подростковых порток с этикеткой «изготовлено в Беларуси». Встречи с полуразобранным Ельциным и общение с российским электоратом лишь усиливают эту уверенность. Ему не терпится быть мировым игроком, имеющим членство в элитном клубе восьмерки и обладающим весом политического тяжеловеса. Он хочет влиять на геополитические процессы, быть в эпицентре глобальных событий. Он бредит Кремлем. Им движет жажда мщения тем, кто сегодня сильнее его. Но он не желает видеть и принимать существующие реалии. ▶



Фота IREX/ProMedia

Окончание на стр.6

ЗАМЕЖНАЯ ПАЛІТЫКА

# Ад варот — паварот

## Прэзідэнты еўрапейскіх краінаў выказаліся супраць ўдзелу Аляксандра Лукашэнкі ў канферэнцыі па балтыйска-чарнаморскім супрацоўніцтве

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Сёння ў Ялце пачынаецца канферэнцыя па балтыйска-чарнаморскім супрацоўніцтве, якую збіраюцца наведаць амаль усе лідэры краінаў гэтага рэгіёна. Вось толькі кіраўніка Беларусі ў Ялце не пабачаць — раней дасланае на імя Лукашэнкі запрашэннеануляванае.

Па звестках, супраць удзелу А.Лукашэнкі ў канферэнцыі выступілі адзіным фронтам адразу некалькі кіраўнікоў — Літвы, Польшчы, Швецыі, Нарвегіі, некалькіх краінаў з поўдня Цэнтральнай Еўропы. Яны тлумачылі сваю пазіцыю тым, што статус госця з Беларусі не будзе адпавядаць статусу іншых удзельнікаў сустрэчы на вышэйшым узроўні. Для Еўропы Аляксандр Лукашэнка пасля 20 ліпеня стаў нелегітымным прэзідэнтам, захопнікам улады — ні больш ні менш. А хто з паважаючых сябе палітыкаў захоча свяціцца ў такой кампаніі?

Канферэнцыя хоць і праходзіць пад эгідай Савета Еўропы, але прымаючым бокам з'яўляецца Украіна. Вось і давялося ўкраінскаму прэзідэнту Леаніду Кучму даводзіць да Лукашэнкі непрыемную навіну пра тое, што ягонае запрашэнне прыехаць 10 верасня ў сонечную Ялту можна выкінуць у сметнік.

Як паведамляюць дасведчаныя крыніцы, беларускі лідэр, пачуўшы ад Кучмы пра ялцінскі «пробрас», раззлаваўся як ніколі. Сцвярджаюць, што менавіта з-за гэтага і была адменена сустрэча Лукашэнкі з Кучмам у Брэсце, якая планавалася на 3 верасня і на якую сам Лукашэнка ўскладаў вялікія надзеі.

Па другой з версіяў, першымі кампанію пратэсту супраць удзелу Лукашэнкі ў ялцінскай сустрэчы падняла беларуская апазіцыя.

Напрыканцы жніўня да ўкраінскага прэзідэнта патрапіў ліст за подпісам нашых апазіцыйных палітыкаў, у якім Кучма папярэджваўся, што ў выніку сустрэчы ў Брэсце з нелегітымным Лукашэнкам ён таксама стане ў Еўропе «белай варонай». Пратэст беларусаў стаў вядомы ў офісах прэзідэнтаў цэнтральнаеўрапейскіх краінаў, яны далучыліся да папярэджванняў у бок Леаніда Кучмы, і той не толькі не паехаў у Брэст, але і адклікаў сваё запрашэнне Лукашэнку наведаць Ялту.

Наш, канешне, не мог не стаць у «трэцюю пазіцыю». Па звестках, некалькі дзён напярэдадні канферэнцыі ў Ялце беларускі бок прадпрымаў намаганні, каб хоць бы чым падпорціць свята балтыйска-чарнаморскага супрацоўніцтва. Паводле ўплывовай літоўскай газеты *Lietuvos Rytas*, Беларусь адмовілася прадаставіць паветраны калідор для пралёту ў Ялту літоўскаму прэзідэнту Валдасу Адамкусу. Гэтая ж газета выказала ўпэўненасць, што такім крокам беларускае кіраўніцтва адказала на падтрымку Літвы беларускай апазіцыі. Пазней канфлікт усё ж удалося патушыць. У чацвер паветраны калідор быў прадастаўлены, а беларускі МЗС нават заявіў, што ніякай забароны не было. Тым часам першапрычына няякі Лукашэнкі ў Ялту пацвердзілася. Паводле афіцыйных звестак адразу з некалькіх заходнееўрапейскіх краінаў, іх лідэры сапраўды не проста адмовіліся кантактаваць з Лукашэнкам у Ялце, але і ўспрацівіліся самаму з'яўленню беларускага кіраўніка ў Крыме. ■

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **7 лістапада 1999 года ў Дзень згоды і прымірэння расіянаў Барыс Ельцын можа пакінуць сваю пасаду.** Аб гэтым паведаміў Агенцтву палітычных навінаў адзін з чыноўнікаў з адміністрацыі расійскага прэзідэнта. Калі Ельцын датэрмінова пакіне пасаду прэзідэнта, то выбары ў Дзярждуму не адбудуцца альбо будуць перанесеныя на доўгі тэрмін, а прэзідэнцкія выбары адбудуцца ў лютым 2000 года. У такім выпадку перамога Уладзіміру Пуціну на прэзідэнцкіх выбарах амаль гарантаваная.

■ **Зводны брат іракскага прэзідэнта Барзан Такрыці тайна пакінуў краіну і цяпер знаходзіцца ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.** Там ён, нібыта, атрымаў палітычны прытулак. На працягу 10 гадоў Барзан Такрыці жыў у Жэневе, дзе прадстаўляў сваю краіну ў ААН. Адначасова ён займаўся фінансавымі справамі ўсяго клана Хусейнаў. Афіцыйны Багдад адмаўляе тое, што зводны брат Садама Хусейна пакінуў краіну.

■ **Югаславія гатовая сілай вярнуць Косава ў склад Сербіі.** Пра гэта сцвярджаюць югаслаўскія вайскоўцы найвышэйшага рангу: «Мы ўвесь час разважаем пра гэта. Гатовыя на такі крок у любы момант і чакаем толькі адпаведнага загаду», — заявіў у сераду начальнік прышцінскага корпуса ўзброеных сілаў Югаславіі генерал Уладзімір Лазарэвіч.

■ **Новы ўрад Панамы атрымаў ад мінулага кабінета міністраў камп'ютэры з сцёртай памяццю.** Калі першая ў гісторыі краіны жанчына-прэзідэнт Мірэйша Маскока прыступіла да выканання сваіх абавязкаў, аказалася, што ва ўсіх камп'ютэрах адсутнічае інфармацыя — яна была сцёртая папярэднікамі.

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ



НАДВОР'Е




**Сёння днём** па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўночна-заходні, слабы. У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўночны, умераны. Тэмпература паветра ў **суботу** ноччу — 7–12, днём –19–24, у **нядзелю** — на 2 градусы халадней.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**490 000**



ПЯТНІЦА З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

## Очень смешно

Все-таки смешная у нас власть. Чиновники — балагуры, министры — хохмачи, просроченный президент — шутник.

Вот, к примеру, позавчера. Стоит наш председатель олимпийского комитета рядом с очередным российским премьером и шутит. Отвечая на вопрос журналистов о том, кого он хотел бы видеть главой Союза Беларуси и России, говорит: «конечно себя». Удалась шутка, надо сказать. У Путина от смеха во взгляде аж Дзержинский промелькнул. Думаю, Лужков с Зюгановым тоже погоготали. А уж как Ельцин шутке младшего брата обрадовался — не рассказать.

Или взять нашего министра иностранных дел. Юмор заложен уже в должности, — какие у нас могут быть иностранные дела? У нас все дела внутренние. Недавно он в духе Рихарда Зорге выдал на-гора «План вхождения страны в семью европейских народов». Документ очень смешной — в нем рассказывается о том, как странам Европейского Союза признать нашу страну за демократическую. При том, что на улицах белорусских городов будут по-прежнему арестовывать мирных граждан просто оттого, что какой-то чиновный урод отдал тупой приказ. Министр, конечно, и сам понимает, что ни в какой Совет Европы нас не примут. Понимать понимает, но зарплату отрабатывать надо. Потому и шутит.

7 сентября наблюдал очень смешную репризу в исполнении минской милиции. Партия свободы объявила, что в сквере Янки Купалы они готовят какую-то акцию. Как всегда, собрались журналисты — стоим, ждем. Выясняется, что акцию подготовили не партийцы, а милиция. Для начала арестовали поэта Славомира Адамовича. Просто так, от не фиг делать. Задерживали Славомира очень смешно — создавалось впечатление, что это он их арестовывал. В глазах сотрудников очень внутренних органов читался ужас. Да и как не бояться — превышение служебных полномочий, незаконное задержание, необоснованное применение силы. Пройдет совсем небольшой промежуток времени, и начнут сотрудники органов «выгребать» за такие гестаповские шутки от года до трех.

А вот и главная шутка недели. Как вы думаете, сколько центнеров с гектара пшеницы собрано в знаменитом совхозе «Городец», откуда пришел руководить страной Александр Лукашенко? Никогда не угадаете — 11,7 центнера. Меньше всех в Шкловском районе. Во как бывает! Пять лет как из хозяйства уехал, а до сих пор природа с урожаем шутки выкидывает.

## Сёння мы з вамі — 17 кастрычніка вы з намі!

Алесь ШМЯЛЁЎ

Пад такім лозунгам мяркуе правесці пікеты каля рынкаў «Ждановічы» і «Дынама» 17 і 18 верасня Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў. Ва ўсякім разе, БАМПаўцы падалі заяўку ў Мінгарвыканкам, а таксама ў гарвыканкамы Магілёва, Гродна і шэрагу іншых гарадоў Беларусі. Пікеты з'яўляюцца актам салідарнасці з прадпрымальнікамі, якія бастуюць з 2 верасня. У сваю чаргу маладыя палітыкі спадзяюцца на ўдзел «чаўнакоў» у Маршы свабоды 17 кастрычніка. ■

# 8 верасня прайшло весела

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Беларускі Народны Фронт даволі годна правёў акцыю 8 верасня ў гонар Дня Беларускай вайсковай славы. Каля 4 тысяч чалавек прайшлі шэсцем ад Опернага тэатра да сквера імя Янкі Купалы. Маладыя дзяўчаты дарылі мужчынам кветкі, а маладыя хлопцы раздавалі значкі: «Я снайпер» і наклейкі «Stop Luka», якія большасць клеіла адзін-аднаму на спіну і так пасля хадзіла па вуліцах горада.

Сяржук Сахараў, адзін з кіраўнікоў Беларускай Музычнай альтэрнатывы кінуў у натоўп дзесятак футболак з надпісамі Хартыя'97 спераду і «Я ведаю, хто галоўны дурань, на Беларусі» на спіне.

На жаль, улады, як заўсёды пайшлі на подласць і адключылі электрычнасць, чым сарвалі мітынг і канцэрт гурта NRM.

Адбылася таксама невялікая бойка моладзі з п'янымі «скінхэдамі», пару з іх арыштавалі міліцыянты.

Затрыманых пасля акцыі не было, але некаторым удзельнікам прама на акцыі выпісваліся позвы ў суд. ■



Фота Ул.ШЛАПАКА

СВЕДЧАННЕ

# Адамовіча затрымалі за адну прысутнасць

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

А 7-ай гадзіне вечара 7 верасня на праанансаваным месцы збору ўдзельнікаў акцыі «Мы разбілі маскалёў», якую праводзіла, згодна з раскіданымі улёткамі, Беларуская партыя Свабоды, сабралася некалькі дзесяткаў журналістаў і столькі ж жадаючых паглядзець на дзейства. Арганізатары, у выглядзе трох асобаў у чорных капшулях, сціпла сядзелі на лаўцы, чакаючы астатніх. Непадалёку знаходзіўся і паэт Славамір Адамовіч. Прыкладна ў 19:05, калі журналісты ўжо пачалі са скептыцызмам казаць пра перспектыву акцыі і БПС, дзейства распачалі самі міліцыянты. Падышоўшы да Славаміра, яны прапанавалі яму «праехацца ў пастарунак». Пры гэтым нікіх абвінавачванняў яму не прад'явілі, і дакументы ў яго былі ў парадку. Тым не менш «ахоўнікі правапарадку» схапілі Адамовіча і павалаклі ў бок ад натоўпу. Ды не атрымалася ўсё так лёгка. Знаёмыя паэта, якія прысутнічалі там, схапілі Славаміра ды пацягнулі да сябе, адштурхоўваючы міліцыянтаў. Даявлося тым выклікаць АМАП. Бравыя хлопцы з імпэтам раскідалі бабулек і журналістаў і занеслі Адамовіча ў аўтобус, які з'ехаў у напрамку Цэнтральнага РАУС.

Праз 10 хвілінаў распачалася і абяцаная акцыя. Змест яе быў вельмі кароткі. «Свабодаўцы», якіх было каля 15 чалавек, дасталі расійскі трыкалор, падпалілі яго, затым дазволілі міліцыянтам вырваць сцяг і патаптацца па ім нагамі, з мэтаю затушыць. Пасля гэтага БПСаўцы з крыкамі «Глядзіце, менты топчуць расійскі сцяг» зніклі ў невядомым накірунку.

Сцяг дагарэў, а журналісты, яшчэ крыху патаптаўшыся, пацягнуліся дахаты. На шляху дамоў быў затрыманы аператар Сяргей Чырык, які здымаў акцыю. Відэакасету ў яго абсалютна незаконна канфіскавалі, выдаўшы ўзамен касету з запісам мастацкага фільма «Індыяна Джонс, альбо Апошні крыжовы паход».

Адамовіча выпусцілі ў 11 гадзінаў вечара, уручыўшы позву на наступны дзень на 10 раніцы, калі мусіў адбыцца суд над ім. Адамовіч прыйшоў, адзначыўся, пасля чаго яго, замест суда, адпусцілі, загадаўшы з'явіцца ў суд у чацвер. Працэс над ім павінен быў адбыцца ў 14 гадзінаў, і на момант падпісання газеты ў друк вынікі нам яшчэ былі невядомыя.

Відавочна, што ўлады распачалі новы наступ на незалежную прэсу. Апошнія інцыдэнты падчас масавых акцыяў, фінансавыя праверкі, адключэнне святла, сведчаць аб гэтым. Аднойчы прэзідэнт ужо пасадзіў у турму журналіста, абазначыўшы свае адносіны да свабоды слова. Чым скончылася гісторыя з Шарыметам, усе добра памятаюць.

Дык што, «бацька» жадае распачаць новую вайну з незалежнымі СМІ? Наўрад ці яна будзе на яго карысць. ■



Фота Ул.ШЛАПАКА

Міліцыянты «просяць» Славаміра Адамовіча праехаць у РАУС

ЦЫТАТА НУМАРА

**Низкая заработная плата, которая и на социальное пособие не тянет, отсутствие мотивации к труду, всякой перспективы для себя и детей порождают, с одной стороны, полную апатию и безразличие. С другой — приводят к массовому пьянству и алкоголизму, масштабы которого переросли всякие пределы как среди мужчин, так и среди женщин.**

*Александр ЯРОШУК*

*Газета «Советская Белоруссия», 9 сентября 1999г.*

## Аддайце нам заробак!

Алесь СЕРДЗЮКОЎ

Крытычная сітуацыя днямі склалася на Крычаўскім заводзе гумавых вырабаў. На гэтым прадпрыемстве трэці месяц не выплачваюць зарплату. Рабочыя патрабуюць ліквідацыі запазычанасці ў кароткія тэрміны, пагражаючы ў іншым выпадку страйкам. Гэта ўжо трэцяе прадпрыемства на Магілёўшчыне, якое, пасля Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў і магілёўскага арэнднага прадпрыемства «Інвестдом», дабіваецца выплаты зарплаты менавіта такім шляхам. ■

## Белая пляма і чорная дзірка

Рыгор БУЯН

8 верасня насупраць Палаца чыгуначнікаў прайшоў міні-мітынг, арганізаваны Таварыствам беларускай мовы. Людзей на ім было няшмат — каля 100 чалавек, хоць узнятыя на мітынгу праблемы ўяўляюцца надзвычай актуальнымі для Беларусі канца 20 стагоддзя. А менавіта: адраджэнне беларускамоўнай адукацыі. На мітынгу былі прынятыя два звароты: да Аляксандра Лукашэнкі і мэра Мінска Уладзіміра Ярмошына. «Лічым неабходнымі захады кіраўніка нашай дзяржавы па адкрыцці першага Нацыянальнага універсітэта, каб Рэспубліка Беларусь не аказалася белай плямай на сусветнай мапе нацыянальных адукацыяў ды «чорнай дзіркай» для выцякання ў нябыт розуму 21 стагоддзя». У падтрымку беларускамоўнага універсітэта Таварыствам ужо сабрана каля 10 тысяч подпісаў, больш за 100 дактароў і 400 кандыдатаў навук гатовыя вучыць студэнтаў па-беларуску.

Зрэшты, ТБМ не спадзяецца атрымаць «дабро» на адкрыццё універсітэта. Аналагічны ліст ужо дасылаўся прэм'ер-міністру Сяргею Лінгу — дагэтуль Таварыства адказу не атрымала. Таму ТБМ жадае атрымаць фармальную адмову А.Лукашэнкі, каб мець магчымасць папрасіць у ВНУ Еўропы дапамогі.

У звароце да У.Ярмошына ўдзельнікі мітынгу прапануюць «прыняць шэраг дакументаў па забеспячэнні рэальнага статусу беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця сталіцы». У прыватнасці, адчыніць Нацыянальны універсітэт, стварыць як мінімум адну беларускамоўную школу ў кожным мікраёне Мінска, шыльды, рэкламныя плакаты, афішы афармляць у першую чаргу па-беларуску і гэтак далей. ■

## Украіна «стрыжэ купоны»

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У адрозненне ад Беларусі, наша паўднёвая суседка карыстаецца падтрымкай заходніх фінансавых арганізацыяў. Толькі за апошні час Украіна атрымала ад іх больш за 335 мільёнаў долараў на развіццё сваёй эканомікі.

Днямі Рада дырэктараў МВФ падтрымала выдзяленне Украіне чарговага траншу крэдыту ў памеры 184 мільёнаў долараў. Як паведаміў намеснік кіраўніка МВФ Стэнлі Фішар, усе чальцы Рады ўхвалілі ход эканамічных рэформаў ва Украіне і падкрэслілі, што іхнія тэмпы сёлета аказаліся нават вышэйшымі, чым чакалася. Тым не менш, як падкрэсліў чыноўнік з МВФ, украінскаму ўраду трэба надаваць больш увагі правядзенню паслядоўных рэформаў. Тады сусветная супольнасць будзе ўпэўненая, што яе грошы сапраўды дапамагаюць краіне. Чакаецца, што ў бліжэйшы час Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліць Украіне крэдыт у 51,88 мільёна долараў для фінансавання праекта «Развіццё чыгунак Украіны». ■

СПОРТ

## На футбольным фронце без пераменаў

Алесь ШМЯЛЁЎ

У сераду беларуская футбольная зборная прайграла чарговы міжнародны афіцыйны матч. На гэты раз Швейцарыі, у гасцях, з лікам 0:2.

Ад гэтай паразы нашая каманда нічога не згубіла, губляць даўно не было чаго. У цяперашнім адборачным цыкле беларусы не выйгралі ні аднаго матча і толькі два здолелі звесці ўнічыю. Усяго ж апошняя перамога беларусаў у афіцыйных матчах адбылася ў жніўні 1996 года над камандай Эстоніі. Яшчэ пры ранейшым галоўным трэнеры Бароўскім. Пры Міхаілу Вергіенку ж беларусы за тры гады ў афіцыйных матчах не перамагалі!

Паўстае пытанне: перспектыўная каманда, добрыя ігракі, чаму ж прайграем? Можа, пара ўсё ж задумацца аб змене кіраўніцтва каманды?

Зараз беларусы рыхтуюцца да апошняга адборачнага матча з Італіяй 9 кастрычніка. Калі ўлічыць, што зараз над італьянцамі завіс дамоклаў меч другога месца, то можна меркаваць, што ў гэты дзень беларусам абсалютна нічога «свяціць» не будзе. Ну, хіба што асвятляльныя мачты стадыёна «Дынама». ■

# Снайперы цэляцца ў вокны?

## Падчас візіту расійскага прэм'ер-міністра Уладзіміра Пуціна ў Мінск былі прынятыя надзвычайныя меры бяспекі

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

У гэты дзень на пад'ездах дамоў, вокны і балконы якіх выходзяць на праспект Скарыны, дзе праязджаў высокапастаўлены госць з Расіі, былі расклееныя аб'явы наступнага зместу: «Грамадзяне жыхары! У сувязі з правядзеннем мерапрыемстваў з нагоды прыезду прадстаўнікоў Расійскай Федэрацыі 8 верасня, вам неабходна ў перыяд з 9 да 22 гадзінаў устрымацца ад выхадаў на балкон і ўтрымліваць форткі, вокны, балконныя дзверы ў зачыненым выглядзе». Гэтыя аб'явы падпісаныя Партызанскім райаддзелам унутраных справаў Мінска. Каб высветліць падрабязнасці, карэспандэнт НАВІНАЎ патэлефанаваў начальніку Партызанскага РАУС, які, аднак, здзівіўся, што ўпершыню чуе пра такія аб'явы, і паабяцаў разабрацца. На жаль, звязацца з ім пазней не атрымалася, начальнік быў заняты. У ЖЭС № 12, якому належыць адзін з дамоў на праспекце каля плошчы Перамогі, нам патлумачылі, што гэтых аб'яваў не вывешвалі. Аднак нават у памяшканне ЖЭСа прыходзілі міліцыянты і запатрабавалі зачыніць форткі. Жыхары дома казалі, што міліцыя звярталася з такой просьбай і да іх.

Па традыцыі, падчас афіцыйных візітаў гасцей з Расіі, у жылых дамах прымаюцца надзвычайныя меры бяспекі. Калі ў Мінск прыязджаў прэзідэнт Ельцын, то міліцыянты таксама дзяжурылі каля пад'ездаў і папярэджвалі пра форткі і балконы. Гэта, маўляў, звязана з тым, што на дахах дамоў па праспекце дзяжураць снайперы, а каб яны не памыліліся і раптам каго памылкова не падстрэлілі, жыхары дома не павінны высоўвацца падчас праезду расійскіх гасцей па вуліцы і плошчы.

Дарэчы, на многіх пад'ездах гэтыя аб'явы нехта пазрываў, а ў другой палове дня форткі і балконы адчыняліся, бо на вуліцы трымалася гарачае надвор'е, пажылыя людзі не вытрымлівалі духаты і нават выходзілі на балконы.

Карэспандэнт НАВІНАЎ пацікавіўся ў жыхароў, як яны ставяцца да падобных мераў бяспекі для расійскіх гасцей. Высветлілася, што людзі да гэтага ўжо проста прызвычаіліся, не здзіўляюцца, калі ў іх патрабуюць «не высоўвацца», а ім нават не цікава, хто прыехаў — «Пуцін ці Распуцін». Ветэран вайны Вячаслаў Пятровіч лічыць, што «народу патрэбна даваць, а калі ты дрэнны, то ніякія меры не дапамогуць». Ён прыгадаў, як Калінін без аніякай аховы ўручаў яму ўзнагароду і нават выпіў з салдатамі.

Перад прыездам расійскага прэм'ер-міністра жыльцоў таксама папярэдзілі, каб яны памылі, пачысцілі балконы і не вывешвалі там бялізны. Словам, як сказаў жыхар-пенсіянер, «мы прывыклі і яны прывыклі».

У праваабарончым цэнтры «Вясна-96» нам афіцыйна заявілі, што падобныя патрабаванні да жыхароў — гэта абсалютна відавочнае парушэнне правоў чалавека. Як кажуць, мой дом — мая крэпасць, нават калі ў Мінск прыязджаюць госці з Расійскай Федэрацыі. ■

**ПЕРАМОЎНЫ ПРАЦЭС**

# Апазіцыі абяцаюць прамы эфір

**Рыгор БУЯН**

Другі этап кансультацыяў па доступе апазіцыі да дзяржаўных СМІ, які прайшоў пры пасрэдніцтве місіі АБСЕ 8 верасня ў рамках падрыхтоўкі перамоўнага працэсу паміж апазіцыяй і ўладамі, прынёс пэўны плён. Як гаворыцца ў афіцыйным прэс-рэлізе, «у ходзе кансультацыяў дасягнута прынцыповая дамоўленасць аб прадстаўленні ў дзяржаўных электронных СМІ прамога тэле- і радыёэфіру, а таксама месца ў дзяржаўных газетах для выступлення апазіцыі». Канкрэтны час, праграмы, памер газетнай плошчы на сустрэчы 8 верасня не абмяркоўваўся, бо з урадавага боку экспертаў па СМІ не было. Але ўжо на наступнай сустрэчы экспертаў, прызначанай на 14 верасня, гаворка будзе ісці менавіта вакол канкрэтыкі па гэтым пытанні. Экспертную групу з боку выканаўчай улады ўзначаліць добра вядомы ў журналісцкім свеце галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч; у ягонай групе будуць працаваць таксама генеральны дырэктар інфармацыйнага агенцтва Нацыянальнай Дзяржтэлерадыёкампаніі Аляксандр Цітавец, начальнік упраўлення Дзяржкамдруку Ігар Коваль, саветнік-кансультант адміністрацыі прэзідэнта Алена Шніткова.

Кіраўнік экспертнай групы ад апазіцыі Міхаіл Пастухоў лічыць дасягнутыя дамоўленасці «як пазітыўныя зрухі ў кансультацыях». Такую выснову ён зрабіў на аснове згоды прэзідэнцкага памочніка Міхаіла Сазонава на тое, што «апазіцыі будзе дадзены прамы эфір — апазіцыя будзе выступаць без цэнзуры, без папярэдняга запісу выступоўцаў». Атрыманая згода і на тое, што ў мясцовым друку з'явіцца пастаянная калонка кшталту «Слова апазіцыі».

Апазіцыйныя эксперты збіраюцца ставіць перад урадавым бокам і такое пытанне: раздзяліць, напрыклад, «Рэзананс» на дзве часткі, і адну з іх даць для выступлення апазіцыйных дзеячаў — гэтую частку павінны рыхтаваць апазіцыйныя журналісты. Больш за тое, Міхаіл Пастухоў выказаў думку, што экспертныя групы ў будучым, «калі мы знойдзем нейкую згоду» на кансультацыях, маглі б трансфармавацца ў Назіральны савет — менавіта ён сачыў бы за аб'ектыўнасцю асвятлення працэсу перамоваў як у дзяржаўным, так і ў недзяржаўным друку. Толькі «аб'ектыўнасць» кожны разумее па-свойму. НАВІНАМ, напрыклад, «наглядчык» у выглядзе Назіральнага савета хоць з боку апазіцыі, хоць з боку ўладаў не патрэбен. Для нас існуе закон аб друку. ■

**ПАЛІТЫЧНЫЯ УРОКІ**

# Вінцук Вячорка пазнаваў у Югаславіі «галоўны сакрэт»

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

***— Увогуле Вы маглі б параўнаць сітуацыю ў Югаславіі і Беларусі?***

— Метады дзеяння дыктатураў вельмі падобныя. Крок за крокам яны знішчаюць фрагменты грамадзянскай супольнасці, адсякаючы слабейшыя самымі рознымі захадамі — прамой забаронай, фінансавай пятлёй, кампаніяй ачарнення ў дзяржаўных СМІ. Апазіцыя ў Югаславіі таксама называецца агентамі NATO, здраднікамі і г.д. Я меў радасць глядзець праграмы Бялградскага тэлебачання — яны былі да болі знаёмыя, са сваімі зімоўскімі і кавалёвымі.

Вельмі падобная таксама эканамічная сітуацыя. Як раз, калі я там быў, адчуўся вялікі дэфіцыт бензіну, малака, яек.

Ёсць і адрозненні. Там, на дзіва, існуе больш свабоды ў сродкаў масавай інфармацыі, ёсць незалежныя электронныя СМІ. Няма такіх абуральных фактаў з палітычнымі вязнямі, але абыходжанне з многімі дзеячамі апазіцыі яшчэ больш жорсткае. У нас людзі знікаюць, там іх забіваюць, а потым спісваюць усё на вайну. Адпаведна паўстае, як і ў нас, атмасфера жаху і апатыі. З іншых адрозненняў адзначу наяўнасць імперскіх настрояў. Сербія ў пэўным сэнсе — мікра-Расія. Яна дамінавала ў колішняй Югаславіі, і грамадства зараз вельмі пакутліва пераадольвае постімперскі сіндром. Хварэе ім і амаль што ўся апазіцыя.

***— А з кім з яе лідэраў Вы сустракаліся?***

— Першае, з кіраўніцтвам блока Саюз дэмакратычных партыяў, які мае моцныя пазіцыі ў правінцыі. Я сустракаўся з адным з лідэраў СДП Жарко Корачам. Таксама меў сустрэчы з людзьмі з Дэмакратычнай партыі Зорана Джынджыча, хоць павінен сказаць, што ён і Весна Пешыч, якіх мы памятаем па падзеях двухгадовай даўніны, моцна падарвалі свой аўтарытэт, з'ехаўшы ў самыя трывожныя дні вайны за мяжу.

***— Чым яны тлумачылі свой ад'езд?***

— Па-рознаму. Джынджыч, які быў у Чарнагорыі, казаў, што ён там зробіць болей чым у Сербіі. Але, безумоўна, той жа Вук Дражкавіч, іх колішні партнёр па «кааліцыі трох», былы віцэ-прэм'ер, зараз іх абвінавачвае, што ўцяклі з-пад бомбаў. Яшчэ я сустракаўся з кіраўніком Аб'яднання няўрадавых арганізацыяў рэжысёрам Мелента Дэрэтам, у гэтае аб'яднанне ўваходзіць больш за 200 розных недзяржаўных структураў. таксама вельмі ўплывовая арганізацыя.

***— Так бы мовіць, вывучалі сітуацыю знутры. І ў чым, на Ваш погляд, слабасць і ў чым сіла югаслаўскай апазіцыі?***

— Слабасць у крайняй сварлівасці ды ў імперскім сантыменце. Але гэта не датычыць, напрыклад, маладзёжных арганізацыяў. Так, я сустракаўся з кіраўніцтвам маладзёжнага руху «Отпор» — гэта азначае літаральна адпор. Яны надзвычай папулярныя сярод моладзі і свядома дыстанцуюцца ад сталай, даўняй апазіцыі. І яшчэ вельмі спадабаліся за энергію і дынамізм дзеячы з незалежнага прафсаюза «Незавістност». З яго прэзідэнтам Браніславам Чанакам мы нават дамовіліся аб спаборніцтве — хто раней атрымае перамогу. Гэтыя апазіцыянеры дзейнічаюць на стыку палітычнай акцыі, прафсаюзна-страйкавай акцыі і маладзёжна-няўрадавай. Такі шлях падаецца вельмі перспектыўным. Дарэчы, я пераканаўся, што югаслаўскі народ нават больш радыкальны, чым некаторыя лідэры апазіцыі. У іх апазіцыя, аказваецца, даволі нядрэнна прыстасавалася да сістэмы дзяржаўнай улады. Любога з кіраўнікоў апазіцыі прэзідэнт Мілошавіч можа запрасіць ва ўладныя структуры і хутчэй за ўсё атрымае згоду. Многія югаславы не могуць дараваць гэтага сваім апазіцыянерам, у тым ліку ветэраны вайны, якія зараз аказаліся ні з чым і задаюцца пытаннем, за што яны ваявалі.


Фота Ул.ШЛАПАКА

***— Вядома, што падчас вайны ў Бялград прылятаў Лукашэнка, заязджалі туды Шэйман ды Кучынскі. Пра гэта неяк узгадваецца ў югаслаўскіх СМІ?***

— Ніякіх слядоў Шэймана ці Кучынскага на югаслаўскай зямлі я не заўважыў. Пра Беларусь узгадваюць даволі рэдка, толькі ў сувязі з чарговым інтэграцыйным выбрыкам А.Лукашэнкі. Хоць ён на тэлеэкранах — фігура папулярная. А ўвогуле тэма славянскага саюза трох зараз у Югаславіі прыціхла, бо гэта ад пачатку была ідэя славянска-праваслаўнага адзінства, а зараз праваслаўная царква Сербіі знаходзіцца да Мілошавіча ў апазіцыі.

***— Вернемся да нашых падзеяў. Вось Вы прыехалі і сходу падтрымалі планы правесці 17 кастрычніка апазіцыйны мітынг з удзелам 100 тысяч чалавек. Па-першае, ці не надта многа, улічваючы сённяшнюю апатыю людзей? І па-другое, навошта гэтая гонка за колькасцю? Якая розніца — 50—100 ці нават 500 тысяч выйдзе на вуліцу? Перамагайце, калі вы сапраўдныя дэмакраты, на выбарах, а навошта гэтыя вулічныя разборкі?***

— Што тычыцца 100 тысяч — хто не ставіць мэтаў, той іх не дасягае. А наконт дэмакратыі, то яна не зводзіцца да выбараў, бо выбары не адбываюцца ў вакууме. У грамадстве павінна існаваць дэмакратычная атмасфера, патрэбнае дэмакратычнае інфармацыйнае поле, і толькі тады могуць працаваць рычагі дэмакратыі. Масавая акцыя гэтаму прызвана дапамагчы. Яна засведчыць, што беларускае грамадства не мірыцца з прававым абсурдам, які ўтварыўся пасля 21 ліпеня. Па-другое, рэжым, вертыкаль, сілавыя структуры павінны ўбачыць, што на нас ужо немагчыма далей ставіць свае палітычныя і геапалітычныя эксперыменты. І па-трэцяе, перамоўны працэс з уладай будзе толькі тады мець поспех, калі мы засведчым сваю рэальную сілу, а зараз у нас не так шмат спосабаў гэта зрабіць. Вось чаму нам гэтак патрэбная менавіта масавая акцыя. ■

**ГОЛАС ВУЛІЦЫ**

**Большасць рынкаў краіны зараз бастуюць. Ці закранула вас забастоўка «чаўнакоў»? Ці спачуваеце вы ім?**


ЯБЛОНСКАЯ Вольга, студэнтка

— У цяперашні момант не закранула, бо я даволі рэдка хаджу на рынкі. Бастуюць яны таму, што гэта іх адзіная магчымасць адстаяць свой кавалак хлеба. І ім вельмі спачуваю. Агульнавядома, што, калі прадпрымальніцтва расквітае, то і простыя людзі будуць жыць добра.


Віктар, слесар

— Мяне гэта асабіста не закранула і закрануць не магло, бо я на рынках не гандлюю. Ці спачуваю я? Я думаю, ім трэба суцішыць свае патрабаванні. Дзяржаве цяжка, трэба трываць!


Таццяна, дыспетчар ЭВМ

— Канешне ж, гэта сказваецца на ўсіх простых людзях, хто ездзіць на рынак і набывае танныя рэчы, каб зэканоміць капейку з свайго бюджэту. Я іх разумею, спачуваю. Я думаю, што яны робяць правільна.


Сяргей, праграміст

— Прадпрымальнікі позна апомніліся, трэба было баставаць пяць гадоў таму. Гэта закранае ўсіх, хто б што ні казаў. А ўвогуле падобную сітуацыю трэба было прадбачыць у 1994-ым.


Аляксандр, агент па продажы нерухомасці

— Ведаю пра забастоўку, падтрымліваю. Але зараз — не закранула. Я ім спачуваю, але нічога зрабіць не магу.

**Апыталі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

